# БАЦЬКАЎШЧЫНА



**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 46 (328) — Нядзеля, 11 лістапада 1956 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 10


# Мадзяршчына топіцца ў моры крыві

### МАДЗЯРСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ БЯСПРЫКЛАДНАЯ Ў ГІСТОРЫІ

Паміж мадзярскай крывавай рэвалюцыяй і польскай бяскроўнай «эвалюцыяй» існуе цесная прычыновая залежнасьць. Першым штуршком да сяньняшніх падзеяў за зялезнай заслонай было ліпеньскае паўстаньне ў Пазнані. Калі-б ня гэтае паўстаньне, дык не разыграліся-б у Варшаве і кастрычніцкія выпадкі, што высунулі на верх Гамулку й прывялі Польшчу да нацыянал-камунізму. Але калі-б ня гэтыя кастрычніцкія выпадкі ў Варшаве, дык ня было-б і падзеяў будапэштанскіх, якія выліліся ў крывавую рэвалюцыю. І наадварот, калі-б ня рэвалюцыя у Мадзяршчыне, дык зусім праўдападобна, што Масква навяла-б дагэтуль у Варшаве парадак, абмяжоўваючыся толькі да дробных уступак. Такім чынам апошнія выпадкі ў вабедзьвюх краінах — гэта дзьве плыні аднаго й таго самага руху, выкліканага аднымі самымі прычынамі, накіраванага да аднае й тае самае мэты.

Што ў Польшчы ўсё гэта скончылася бязбольна, а Мадзяршчына залілася крывёю, было справаю чыстага прыпадку. Так сталася таму, што Гамулка, у найбольш крытычны мамэнт — падчас раптоўнага прылёту ў Варшаву крэмлёўскіх верхаводаў, калі знаходзіліся ў маршы на Варшаву савецкія панцыры, ня толькі ня выклікаў іх на помач, як гэта зрабіў мадзярскі Надзь, але катэгарычна запатрабаваў іх адвароту. І бальшавікі былі змушаныя на гэта згадзіцца, бо інакш выглядалі-б на яўных агрэсараў. Калі-б аднак — із згодаю ці бяз згоды Гамулкі — былі тады ўведзеныя ў акцыю савецкія войскі, дык няма найменшага сумлеву, што ўвесь польскі народ хапіўся-б таксама за зброю. І наадварот, калі-б падчас пачаткавай фазы будапэштанскіх маніфэстацыяў Надзь ня выклікаў на помач савецкіх войскаў, дык, праўдападобна, што і ў Мадзяршчыне кончылася-б тым, што і ў Польшчы. Дзякуючы такому прыпадковаму сплёту выпадкаў, сталася тое, што ў сваім выніку крывавая разьня мадзярскага народу спрычынілася да замацаваньня польскіх дасягненьняў, тады калі сама Мадзяршчына топіцца ў крыві.

Мадзярская рэвалюцыя ня толькі ня мае сабе роўных у вызвольных рухах супраць расейскага, а пазьней савецкага імпэрыялізму, але яна зьяўляецца бяспрыкладнай у цэлай гісторыі вызвольных змаганьняў. Перш за ўсё, яна была бяспрыкладнай ужо тым, што зьяўлялася стыхійным, спантанічным, ня прыгатаўляным і не плянаваным зрывам. Ня гледзячы на тое, што гэты выбух быў узапраўды ўсенародным, у якім усе чыста, пачынаючы ад дванаццацігадовых дзяцей і жанчын, а канчаючы старымі, хапіліся за зброю супраць зьненавіджанага акупанта, за ўвесь час гэтае рэвалюцыі ня было ані супольнага агульнага кіраўніцтва, ані ўзгодненых і кардынаваных дзеяньняў. Кажны горад, кажная вёска змагалася на сваю руку, з собскае ініцыятывы, паводля собскіх плянаў, пад собскім кіраўніцтвам, а найчасьцей бязь ніякага кіраўніцтва. Але кажны горад і кажная вёска змагаліся да апошняга.

Другой бяспрыкладнай рысай мадзярскага паўстаньня была ягоная зацятасьць і бязьмежная самаахвярнасьць ягоных удзельнікаў. У тыя трагічныя дні ў Мадзяршчыне такога паняцьця, якое называецца страхам перад сьмерцю, ня існавала зусім. Там аб сьмерці ніхто ня думаў. Як паведамляюць навочныя сьведкі, на вуліцах Будапэшту й іншых гарадоў дванаццацілетнія хлапчукі із аўтаматамі ў руках ушчэпліваліся на савецкія танкі, зь якіх сыпаліся кулямётныя залпы, і балотам залеплівалі ваконныя шчэліны, каб танкістыя не маглі цаляць. На вуліцах Будапэшту й іншых мадзярскіх гарадоў няпоўналетнія школьныя дзяўчаты, сьмела кідаліся пад град куляў, каб забраць ад забітых і раненых аружжа ды перадаць яго паўстанцам. На аўстрыяцкай граніцы паяўляліся адзінокія групкі малых дзяцей з таблічкамі на грудзях, на якіх было напісана, каб імі заапекаваліся, бо бацькі іхныя змагаюцца за свабоду. Гэткіх і ім падобных, проста няверагодных, выпадкаў было сотні й тысячы, а ўсе яны сьветчылі толькі аб тым, што мадзярскі народ цьвёрда наважыўся змагацца да апошняга. Наважыўся на заклік словаў свайго нацыянальнага гімну «Ніколі ня быць нявольнікам — гэта наша прысяга», гімну, які сьпяваўся ў 1848-49 годзе падчас паўстаньня пад правадырствам нацыянальнага гэроя Кашута, крывава здушанага таксама Расеяй, як падарак для манархіі Габсбургаў. Гэты-ж гімн стаўся баёвым нацыянальным прызывам і ў цяперашнім паўстаньні.

### НАЦЫЯНАЛЬНЫ ХАРАКТАР ПАДЗЕЯЎ

Апошнія падзеі ў Мадзяршчыне й Польшчы — гэта найбольш вымоўнае запярэчаньне пашыранага і ўгрунтаванага на Захадзе пагляду, што як народы самога Савецкага Саюзу, гэтак і ягоных сатэлітаў церпяць толькі сацыяльнае зло, эканамічную эксплятатацыю і палітычнае прыгнечаньне. Аб найвялікшайжа трагэдыі паняволеных маскоўскім бальшавізмам народаў — іхным нацыянальным паняволеньні Захад, трапляючы ў тон крэмлёўскіх верхаводаў і іхных аднадумнікаў у гэтым пытаньні на Захадзе — шавіністычна настроеных расейскіх эмігрантаў, слухаць ня любіць. Гэтаксама ня любіць ён слухаць і аб тым, што сяньняшні савецкі імпэрыялізм — гэта толькі больш вырафінаваная, больш дынамічная і адначасна больш замаскаваная форма спрадвечнага расейскага імпэрыялізму.

Ужо само зьявішча гэтак актуальнага сяньня нацыянал-камунізму або цітаізму і іхных «собскіх дарог да камунізму» выводзіцца з нацыянальнай апрычонасьці паасобных народаў і ёсьць супрацьстаўленьнем гэтак званаму на Захадзе інтэрнацыянальнаму камунізму, які павінен быў-бы называцца сваім запраўдным іменем — расейскім камунізмам. Ведамы амэрыканскі публіцысты В. Ліпман ня-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Дзьве рэвалюцыі

«Хлеба й свабоды!» — усе лёзунгі, пад якімі бальшавікі здабылі ўладу ў Расеі, зводзіліся да гэтага аднаго: «Хлеба й свабоды!»

Ад таго часу прайшло 39 год. 39 год, падчас якіх бальшавікі пашырылі сваю ўладу спачатку на ўсе народы былое царскае імпэрыі, бязьлітасна душачы іхныя нацыянальныя рэвалюцыі, а пасьля — на цэлы шэраг народаў цэнтральнае Эўропы. Лёзунг быў нязьменны: яны ўсьцяж казалі, што яны нясуць — і толькі яны здольныя даць — хлеб і свабоду.

Ужо 39 год работнікаў, сялян і інтэлігенцыю паняволеных імі народаў бальшавікі зганяюць у калёны, загадваючы ім дэманстраваць іхнюю адданасьць рэжыму. З трыбунаў ім крычаць аб нябывалых дасягненьнях сацыялістычнага ладу, аб шчасьлівым і радасным жыцьці, аб дружбе народаў, скаваных у камуністычнай імпэрыі.

Але для работнікаў, сялян і інтэлігенцыі, якіх у ўгодкі кастрычніцкае рэвалюцыі гоняць перад трыбунамі, гэтыя 39 год зьяўляюцца сынонімам гвалту, тэрору й бяспраўя, сынонімам подступу й ашуканства. Яны бачаць, што іхныя народы церпяць нячуваную дасюль нацыянальную, сацыяльную й эканамічную няволю. Яны бачаць, што плады іхнае працы йдуць на разбудову ваеннае машыны, якая служыць прыладай для ўтрыманьня ў няволі іх ды для пашырэньня гэтае няволі на цэлы сьвет. Яны бачаць адно: яны ня маюць ні хлеба, ні свабоды.

Аднак няволя ня можа быць вечнай. Бальшавікі ведаюць гэта вельмі добра, і таму хапаюцца за штораз новыя мэтады, каб утрымаць сваё панаваньне. Вось чаму вучні й памагатыя Сталіна адмовіліся ад свайго настаўніка, сьпіхаючы на яго супольныя злачынствы; вось чаму яны рэгабілітуюць нябожчыкаў, якіх яны самі загналі ў магілу; вось чаму яны абяцаюць палёгкі й дэмакра-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)



# Айзэнгаўэр узноў прэзыдэнтам

**У аўторак 6 лістапада, у выніку галасаваньня, Двайт Д. Айзэнгаўэр здабыў вялікую перамогу, разьмераў якой ніхто ў Амэрыцы не спадзяваўся. Ягоная перавага над Стывэнсонам — пры поўнасьцю яшчэ незакончаным падліку — выражаецца лічбай 31 335 834 галасоў для Айзэнгаўэра і 22 698 450 — для Стывэнсона, тады калі ў 1952 годзе гэтая перавага выражалася ў лічбе роўна шэсьць мільёнаў галасоў.**

**Пасьля сваіх выбараў на прэзыдэнта Айзэнгаўэр асьветчыў: «Усімі здольнасьцямі, якімі абдарыў мяне Бог, і ўсімі сіламі я, як і мае супрацоўнікі, будзем і далей працаваць для дабра 168 мільёнаў Амэрыканцаў і для міру ў цэлым сьвеце».**

**Факт яшчэ большай перамогі Айзэнгаўэра над дэмакратычным кандыдатам, чымся ў папярэдніх выбарах, агульна ацэньваецца, як перамога ня рэспубліканскай партыі, якая выставіла ягоную кандыдатуру, але як перамога асобы прэзыдэнта. Аб гэтым найлепей сьветчыць тое, што апазыцыйная дэмакратычная партыя ў вабодвых палатах Кангрэсу — Палаце Рэпрэзэнтантаў і Сэнаце — здабыла цяпер вялікую бальшыню над партыяй рэспубліканскай.**

**Няма сумлеву, што Айзэнгаўэр між усімі палітычнымі дзеячамі сяньня найбольш поўна рэпрэзэнтуе амэрыканскі народ. Зь іменем Айзэнгаўэра зьвязаныя справы, што маюць цяпер для ўсяго сьвету першараднае значэньне. Ён цьвёрда замацаваў за сабой рэпутацыю чалавека, які спрычыніўся да ўстанаўленьня міру ў Карэі. Зь цяперашнім ягоным паўторным прыступленьнем да выконваньня прэзыдэнцкіх абавязкаў зьбягаецца спыненьне ваенных дзеяньняў на Сярэднім Усходзе. Незалежна ад таго, якімі канкрэтнымі шляхамі пойдуць далейшыя сьветавыя падзеі, можна сьмела сказаць, што паняцьце «эры Айзэнгаўэра» пакрываецца ня толькі з нутранымі справамі Задзіночаных Штатаў Амэрыкі.**

# За мінулы тыдзень

**(пс)** На недахоп падзеяў у вапошнім тыдні наракаць нельга. Затое было іх зашмат, — такіх паважных, і прыходзілі з такой маланкавай хуткасьцяй адна за другой, што ня было часу іх прааналізаваць.

Жудасная трагэдыя Вугоршчыны ўзбудзіла такія вялікія эмоцыі, што яшчэ й сяньня трудна здабыцца на спокойны й лягічны асуд. Таму яшчэ й цяпер шмат людзёў перакананыя, што Ангельшчына й Францыя выкапалі магілу для свабоды й незалежнасьці Вугоршчыны.

Ці гэтая гіпатэза зусім слушная?

На нашу думку, бальшавікі ніякім чынам не маглі дапусьціць да камплетнага вызваленьня вугорскага народу, бо вугорская рэвалюцыя была выразна антырасейскай і антыкамуністычнай. Калі ўрад камуністага Надзя меў цітаістычныя элемэнты, то іх напэўна ня мела-б улада, выбраная вугорскім народам пасьля ўпарадкаваньня краіны. Што да гэтага — бальшавікі не маглі мець шмат ілюзіяў. Выступленьне Вугоршчыны з савецкага блёку нясло Маскве сьмяротную небясьпеку, бо пагрозьліва павялічала шчэліну гэтага блёку аж да межаў Украіны, пры чым ствярала ня менш небясьпечны прэцэдэнс для вызваленьня іншых сатэліцкіх народаў. Да гэтага бальшавікі не маглі дапусьціць. Адвод савецкага войска з Будапэшту ня можна разглядаць, як прызнаньне Масквой незалежнасьці Вугоршчыны, а толькі як тактычны манэўр. Да гэтага, бальшавікі ня былі пэўныя ў водносінах да гэтага войска, бо ведаем выпадкі пераходу на бок паўстанцаў ня толькі паасобных жаўнераў, але цэлых вайсковых злучэньняў.

Праўдападобна, бальшавікі ўжылі-б свае выпрактыкаваныя мэтады правакацыі й знайшлі-б прычыны да выступленьня супраць рэвалюцыі. Рэч іншая, што гэтае выступленьне, праўдападобна, выклікала-б большы пратэст з боку заходняга сьвету: наважаныя дэмаршы або навет гаспадарчыя санкцыі, што, у сваю чаргу, магло-б спрычыніцца, каб здушэньне рэвалюцыі ня было такое гвалтоўнае, брутальнае й крывавае.

Напад на Эгіпт аблягчыў Маскве заданьне. У выніку гэтага было ў палацы АЗН у Нью Ёрку крыху гутарак, у якіх быццам-бы асудзілі маскоўскую агрэсію, выслана ў Маскву некалькі паперак, на якія, праўдападобна, Масква ня хутка адкажа, калі адкажа наагул. Крамлёўскія дыктатары навет не пафатыгаваліся адказаць заходняму сьвету, што, калі для Ангельшчыны й Францыі Суэзкі канал — справа жыцьця й сьмерці, дык для іх ня менш важная справа Вугоршчыны.

☆

Затое Булганін, аднэю рукой выдушваючы вугорскую рэвалюцыю, другою выслаў Ангельшчыне й Францыі далёка нелагодную ноту, у якой выразна прыпомніў што ў яго ёсьць вадародныя бомбы й ракеты. і таму: «рукі прэч ад Эгіпту!» Думаем, што гэтая булганінаўская папера больш падзеіла на Ідэна й Моле, чымся паперка АЗН на Булганіна й супалку.

Што-ж, за грахі маладосьці трэба на старасьць цяжка расплачвацца...

☆

Даказваючы, што эгіпская вайна ня была адзінай прычынай разгрому вугорскае рэвалюцыі, мы нічуць ня зьбіраемся апраўдваць Ангельшчыны й Францыі. Няма сумлеву, што дапушчэньне бальшавікоў на Суэз — вялізарная пагроза для заходняга сьвету, таму прадбачлівы палітык не павінен быў выводзіць свайго войска з гэтага раёну, калі яны там былі. Цяпер-жа трэба было ўсялякімі спосабамі унікаць агрэсіі, якая перадусім на руку бальшавіком, тым больш у такім неадпаведным часе. Няўжо-ж ангельскія й францускія палітыкі наіўна думалі, што пад шумок, які ствaрыўся навакол вугорскага паўстаньня, яны незаўважна зоймуць Суэскі канал, і ўсё будзе чыста-гладка? Як трэба было спадзявацца, — сталася наадварот: замест яны Булганіну — Булганін ім паказвае кулак...

☆

Другая кадэнцыя Айзэнгаўэра пачынаецца ў вельмі-ж цяжкіх абставінах, і няведама, ці ён запраўды шчыра цешыцца з выбару. Гонар, праўда, вялікі, але й абавязкі вялізарныя. Дай, Божа, каб зь імі справіўся. Адно бясспрэчна пэўнае, што сяньня навет праціўнікі Айзэнгаўэра з задавальненьнем даведаліся аб выніках амэрыканскіх выбараў, таму, што зьмена адміністрацыі яшчэ-б на некалькі месяцаў спараліжавала-б амэрыканскую палітыку, і то ў такім небясьпечным часе.

### ПРАТЭСТАЦЫЙНЫ МІТЫНГ У НЬЮ ЁРКУ

Як паведамляюць зь Нью Ёрку, тут у гатэлі «Комодор», у нядзелю 11 лістапада, пад старшынствам Прэзыдэнта Рады БНР, мае адбыцца вялікі мітынг у знак пратэсту супраць савецкае інтэрвэнцыі ў Вугоршчыне й Польшчы. Мітынг скліканы Лігай Вызваленьня Народаў СССР, («Парыскі Блёк»), на чале якое стаіць Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык. Між іншых гасьцей, у мітынгу возьмуць удзел нядаўна выбраны ад Мангэтэну кангрэсмэн Альфрэд Сантанджэлё і судзьдзя Робэрт Морыс, галоўны дараднік Сэнацкага падкамітэту для Нутраное Бясьпекі.

Мастацкая частка будзе складацца з выступленьняў самадзейных груп паасобных нацыянальнасьцяў.

Радыё «Вызваленьне» перадасьць на бацькаўшчыну праз адпаведныя нацыянальныя сэкцыі прамовы, якія будуць сказаныя на гэтым мітынгу.

# Адзінокая Вугоршчына

**Ад Рэдакцыі: Ніжэй зьмешчаны артыкул мы ўзялі з адумысловага выданьня газэты «Мюнхнэр Мэркур». Аўтар артыкулу сп. Гэрд Бахэр — адумысловы супрацоўнік гэтае газэты — у часе вызвольнага змаганьня Вугоршчыны знаходзіўся ў Будапэшце і меў магчымасьць навочна бачыць усе жахі гэных дзён.**

Я не магу забыць вачэй. І гэтых молячых, надзеячыхся, спалоханых абліччаў у Будапэшце. І пытаньня не магу забыць, якое мне ставілася сотні разоў: «Дапаможа нам Захад?»

Я ўжо тады ня сьмеў глянуць у вочы жанчынам, мужчынам, юнакам і дзяўчатам на барыкадах вызвольнага змаганьня, на бульварах беднага дунайскага гораду, перад брамамі штрайкуючых хвабрык. Бо мяне страх браў перад маім адказам.

Гэта было яшчэ колькі дзён таму, дзён з падзеямі, што цяжка сабе ўявіць. І страшнае здарылася: Вугоршчына йзноў адзінокая, жахліва адзінокая. Мяжа, праз якую яшчэ перад гадзінамі плыла патокам міжнародная дапамога, праз якую першы раз ад дзесяці гадоў ізноў вясёлыя людзі слалі свае прывітальныя ўсьмешкі і якая зусім ужо ня выглядала, каб яна перад гэтым была мяжой сьмерці, мяжа, якая на некалькі дзён злучыла, а не падзяліла два эўрапейскія краі, — сталася йзноў заходнім валам Азіі, сьцяной гігантычнага лягеру сьмерці...

Вугоршчына йзноў адна. Над нашым суседам распачалі крывавую расправу. І то ў такі спосаб, які можам бачыць толькі ў найцямнейшых часох старажытнасьці ці сярэднявечча, калі: «Кароль запрасіў сваіх ворагаў на гасьцінную бяседу і... атруціў іх». Гэткім подлым прыкладам пакіраваліся маскоўскія цынікі. Калі ўжо Саветы загадзя ведалі гадзіну нападу, яны запрасілі вугорскі ўрад на перамовы адносна вываду сваіх войскаў, арыштавалі яго, агідна ломячы сваё слова, і напалі на абезгалоўлены народ. Зрабілі яны гэтак не зь якім-небудзь буржуазным палітыкам, не з «заходнім рэакцыянэрам», а з камуністычным шэфам народнае дэмакратыі Вугоршчыны — з камуністым Імры Надзь.

«Калі Захад нам не дапаможа, ён будзе страшна каяцца» — казаў мне адзін змагар вызваленьня з Будапэшту. Захад не дапамог і ён будзе каяцца, бо поўнасьцяй праваліў. Гадамі ўмаўлялі ў паняволеныя народы праз радыё й лятучкі з балёнаў: «Будзьце стойкімі!» І калі адрасаты паважна ўспрынялі гэтыя казаньні, іх дазволілі вешаць, як у 1938 годзе дазволілі павесіць Аўстрыю. Калі ў Вугоршчыне радзілася свабода, «вольны» сьвет дыскутаваў на канапах і глядзеў бездапаможна, а цяпер глядзіць безнадзейна, як гэты край церпіць найбольшы пасьля 1945 году разгром. Яшчэ больш: паложаньне горшае, чымся у 1945 г., бо цяпер прыгнечаным народам забралі апошняе, што яны мелі — надзею. «Голас Амэрыкі» або радыё «Вольная Эўропа» можа цяпер разглядацца за «зялезнай заслонай» як правакацыя.

Абурэньне сусьветнае апініі — вялізарнае. Куды большае на Захад, чымся на Саветаў, ад якіх гэтага можна было чакаць. Але-ж будзем адкрытымі: што можна было рабіць? Бязьлітасная праўда выглядае наступна: або пакідаецца Вугоршчыну й іншыя сатэлітныя дзяржавы на собскі лёс, або Захад маршыруе. Гэтае апошняе азначае сусьветную вайну, дзе пляцдармам — Эўропа, Аўстрыя. Мы ня можам тут паклікацца на гісторыю, мы толькі хочам падчыркнуць палітычны факт , што ніхто ня хоча й ня можа браць адказнасьць за сусьветны пажар .З гэтага факту далей выцякае і тое, што ў мінулую нядзелю з жалем перадаўся братом на Ўсходзе сьмяротны прысуд: Просьба адхіляецца! Уладжвайцеся ў няволі, мы будзем далей за вас маліцца, слаць балёны зь лятучкамі й добрыя словы праз этэр.

Але ёсьць яшчэ іншы бок банкруцтва Захаду. Бок, дзе ён ня прысуджаны да бязьдзейнасьці. Нічога ня можа цяпер быць больш небясьпечным, як упасьці ў пэсымізм і абвесьціць, што Саветы могуць рабіць усё, што захочуць. Яны могуць усё рабіць толькі так доўга, пакуль Захад зь мінай дабрадушнага мешчаніна пападае на вудачку, пакуль дзяржаўныя муж верыць, што у Маскве «усё-ж асноўнае зьмянілася», што з Саветамі можна прыйсьці да нейкага modus vivendi. У часе якраз росквіту суіснаваньня, у часе «дэсталінізацыі» Масква падняла сваю маску. Сталін, якога ў Будапэшце разьбілі на кусочкі, павінен цешыцца із сваіх спадкаемцаў. Яны не забылі ягонага рэцэпту.

Захад мусіць зрабіць грунтоўны перагляд свае лініі. Калі Савецкі Саюз пры найбольшым росквіце суіснаваньня здольны й гатовы ў працягу колькіх дзён здушыць той ці іншы край, дык Захад мусіць быць здольны ў працягу колькіх дзён гэты край выратаваць. Калі Савецкі Саюз усюды, дзе толькі хоча, можа кідаць іскры на бочку пораху бяз выкліканьня сусьветнае вайны, дык мусіць і Захад здабыць для сябе такія-ж перадумовы. Калі адна дзяржава ў Эўропе йдзе сьлядамі Гунаў, дык трэба яе ў палітыцы й гаспадарцы выключыць з грамадзтва цывілізаваных людзей. Захад мусіць абвесьціць інтэрнацыянальны камунізм паза правам, як гэта было ў найсьцюдзянейшыя часы сьцюдзёнае вайны. Трэба спыніць паездкі ў Маскву заходніх палітыкаў, эканамістых, працаўнікоў культуры, футбалістых і розных іншых парлямантараў суіснаваньня»; не даваць заходніх візаў ні Бальшому Тэатру ні маскоўскаму Дынаму. Забойцы застаюцца забойцамі і тады, калі усьмяхаюцца, паказваючы ўсе трыццаць два белыя зубы.

Калі ужо Захад ня можа дапамагчы Вугоршчыне, калі ён мусіць бясьсільна слухаць апошнія радыёвыя клічы «Жыве Вугоршчына, жыве Эўропа, мы паміраем за Вугоршчыну й Эўропу!», дык тады аднаго ня можа ён рабіць: ганьбіць памяць змагароў вызваленьня засядаючы пры адным стале разам зь іх катамі. У гэтым забавязаны Захад перад паўшымі вучнямі Будапэшту, іхнымі маткамі і перад усімі нешчасьлівымі, што там засталіся. І толькі тады будзе адказваць праўдзе тая картка, што адна прадавальніца кветак палажыла на грудзёх паўшага змагара: «Ты памёр не надарэмна».

**Гэрд Бахэр**

# Зварот да беларускіх жаўнераў і ахвіцэраў Савецкае Арміі

**Беларуская сэкцыя Радыя «Вызваленьня» перадала нядаўна наступны зварот да Беларусаў у Савецкай Арміі.**

БЕЛАРУСКІЯ жаўнеры й ахвіцэры Савецкай Арміі!

На вуліцы **Ракошы** ў **Будапэшце** ляжыць абвуглелае цела чатырнаццацігадовае дзяўчыны. Каля яе — два зьнішчаныя танкі тыпу Т 34. Труп дзяўчыны пакрыты вугорскім сьцягам, з надпісам, што яна памерла за Бацькаўшчыну, зьнішчыўшы гэтыя танкі нафтавай бомбай.

БЕЛАРУСКІЯ жаўнеры й ахвіцэры Савецкай Арміі!

Для савецкае ўлады гэты дзень, у якім чатырнаццацігадовая дзяўчына ўслаўляецца сваім народам за тое, што яна голымі рукамі зьнішчыла савецкія танкі ды забіла савецкіх жаўнераў, зьяўляецца фатальным. Яна й ейныя суродзічы пачалі змаганьне не на жыцьцё, а на сьмерць за іхнюю нацыянальную незалежнасьць і палітычную свабоду. Гэтае змаганьне ўжо ўзяло жыцьці больш за 2 з паловай тысяч савецкіх жаўнераў — і, зразумела, куды больш Вугорцаў.

Справа ў тым, што ня толькі для Вугорцаў, але і для ўсіх народаў Усходняе й Цэнтральнае Эўропы савецкі танк стаўся сымбалем нацыянальнага паняволеньня й палітычнае тыраніі. Паўстаньне ўсходнянямецкіх работнікаў у чэрвені 53-га году даказала, што марыянэткавы ўуад **Ульбрыхта-Гротэволя** можа існаваць толькі з падтрымкай савецкай акупацыйнай арміі, якая здушыла работнікаў, што паўсталі супраць тых, хто іх панявольвае. Рэвалюцыя вугорскага народу за нацыянальную незалежнасьць **будзе** пераможнай — калі ня ўжывуць савецкае арміі для здушэньня яе ды для павароту камуністычнай тыраніі.

БЕЛАРУСКІЯ жаўнеры й ахвіцэры савецкай арміі!

Навет камуністычны прэм'ер **Вугоршчыны, Імрэ Надзь,** сказаў свайму народу, што ён ня хоча прысутнасьці савецкіх войскаў у **Вугоршчыне.** Усё-ж ён быў прымушаны заявіць, што новыя аддзелы савецкай арміі ўваходзяць у **Вугоршчыну** з **Румыніі й Украіны.** Ён выказаў дамаганьне вывесьці ўсе савецкія войскі ды зьвярнуўся да Аб'еднаных Нацыяў з просьбай абараніць **Вугоршчыну.** Ён таксама прасіў, каб нэўтральнасьць **Вугоршчыны** была загварантаваная **Злучанымі Штатамі Амэрыкі, Англіяй. Францыяй,** і **Савецкім Саюзам.**

Беларускія жаўнеры й ахвіцэры савецкай арміі!

Суродзічы Беларусы!

Камуністычны рэжым у **Вугоршчыне** значыў для **Вугоршчыны** тое самае, што й для нашага беларускага народу: нацыянальнае паняволеньне, палітычную тыранію ды эканамічнае зьбядненьне. Вугорскі народ дамагаецца таго, чаго дамагаецца беларускі народ — нацыянальнае, палітычнае й эканамічнае свабоды.

Кажны Беларус у савецкай арміі, які памагае здушваць вугорскае паўстаньне, нясе цяжкую адказнасьць перад беларускім народам і ўсім людзтвам.

Мы. ведаем, што некаторыя савецкія аддзелы задэманстравалі сваю салідарнасьць з вугорскім народам, адмаўляючыся ісьці супраць яго.

Хай ніводзін беларускі жаўнер ці ахвіцэр ня возьме на сваё сумленьне вялікага злачынства — злачынства здушваньня змаганьня вугорскіх работнікаў і сялян!

Суродзічы Беларусы! Заўсёды памятайце, што вугорскі народ змагаецца толькі за адно: за права быць гаспадарамі свайго лёсу й свайго краю.

Ня можа быць больш справядлівага дамаганьня!

# Трэба праводзіць паралель

У артыкуле «Эксплятацыя сялян Беларусі, працаваўшых па найму ў падрадчыкаў у 30-50 гадох XIX ст.», зьмешчаным у першым нумары «Весьцяў Акадэміі Навук БССР» за бягучы год, кандыдат гістарычных навук Е. Карнейчык паставіў пытаньне жудаснай эксплятацыі беларускага народу царскім самадзяржаўем. Аўтар прызнае, што становішча беларускага народу, асабліва сялянства шмат пагоршылася пасьля прылучэньня Беларусі да Расеі. Пасьля заваяваньня Беларусі Расеяй паншчынныя павіннасьці былі пераведзены на ўрочныя нормы і значна павялічыліся ў параўнаньні да папярэдніх. Прыкладам, маючы адну валоку зямлі, селянін мусіў адпрацаваць за яе на панскім полі звыш 500 дзён у год. Распаўсюжвалася таксама паншчынная форма эксплятацыі сялянства — больш цяжкая для сялянаў форма прыгонніцкай эксплятацыі. чым грашовы падатак (аброк), які практыкаваўся найбольш у самой Расеі. Гэтак у 50-х гадах XIX ст. 94.1% беларускага сялянства адбывалі паншчыну і плацілі грашовы падатак толькі 2,7%, тады калі ў Расеі паншчынных сялян было 41,1% і ападаткованых — 58,9%.

Аднак найбольш жудасная форма эксплятацыі народу наступіла з разьвіцьцём у Расеі капіталізму, калі земляўласьнікі Беларусі пачалі прадаваць сваіх сялянаў у наймы розным падрадчыкам па будаўніцтву заводаў, дарогаў і каналаў. Е. Карнейчык прызнае, што гэтага тыпу эксплятацыя сялянства была найбольш пашырана ў Беларусі з тае прычыны, што земляўласьнікі Беларусі карысталіся неабмежаванымі правамі ў распаражэньні лёсам паншчынных сялянаў. Ведама, гэтае бязьлітаснае фізычнае выкарыстаньне Беларусі, дзе сьведама падтрымоўвалася польская рэакцыя і эксплятацыя сялянства польскімі панамі, прасьледваліся найменшыя праявы самаабароны народу ды сотні тысяч беларускіх сялянаў перадаваліся расейскім памешчыкам. Зь вядомых прычынаў аўтар артыкулу аб гэтым галоўным фактару зьверскага выкарыстаньня народу не ўспамінае ні слова, але ён абурана выступае супраць самое формы эксплятацыі. Абасноўваючы свае вывады на канкрэтных гістарычных фактах, ён паказвае, як у Беларусі чэрпалася танная рабочая сіла і заганялася на катаржныя работы ў Расею. Сяляне прадаваліся ў наймы паводля прыватных умоваў памешчыкаў і падрадчыкаў. Грошы, выручаныя з гандлю, памешчыкі прысвойвалі сабе, перадаючы адначасна правы над завэрбаванай масай сялянства самым вярбоўшчыкам. Апошнія, дзеля собскае нажывы, распараджаліся перададзенымі правамі, як ім жадалася: самавольна ўстанаўлівалі й мянялі нормы выпрацоўкі, прымушалі працаваць у сьвяточныя дні і адпрацоўваць нормы хворых і памерлых на працы сялянаў завэрбаванае групы. Дзяржаўныя ворганы на гэты зьдзек і самавольства глядзелі прыхільна, бо пры найменшым супраціве гэтае эксплятаванае масы прыбягалі да ўслугаў царскіх чыноўнікаў, якія хутка яе прыводзілі да паслухмянасьці. Ініцыятары бунтаў саджаліся ў вастрогі, або здаваліся ў салдаты. Памешчыкі з свайго боку, ня гледзячы на тое, што яны выручалі вялікія сумы з гандлю над сваімі сялянамі, прымушалі яшчэ сем'і адданых у наймы сялянаў адпрацоўваць дома іхнюю долю паншчыны. **Гэтая эксплятацыя** і зьдзек над народам прывялі да таго, што беларускія сяляне навадпілі працоўныя раёны царскае Расеі, дзе засьцілалі сваімі касьцямі чыгуначныя, канальныя і дарожныя палотны.

Тэма абуральная для беларускага гісторыка. Аднак савецкі гісторык мусіць прыходзіць да іншых вывадаў, чымся гэтага вымагае гістарычная аб'ектыўнасьць. Найлепшым паказьнікам характару гэтай эксплятацыі, як эксплятацыі каляніяльнага народу было ягонае паўстаньне 1860-1863 гадоў, калі ён змагаўся супраць расейскага прыгнечаньня. Тут ужо ня было ніякага пытаньня каваньня дружбы двух братніх народаў. У сваім заключэньні Е. Карнейчык прыходзіць аднак да падобных вывадаў. Ён заяўляе, што «адыход беларускіх сялян на работу па найму, а таксама на будаўніцтва чыгунак і іншых буйных будаваньняў за межы Беларусі, шырокі удзел іх у агульным працоўным працэсе вялізарных масаў, сабраных разам умовамі вытворчасьці, **мелі вялікія прагрэсыўныя вынікі.** Знаёмства з жыцьцём, бытам і звычаямі насельніцтва вялікіх прамысловых цэнтраў, удзел у работах поплеч з рабочымі расейскіх

**(Заканчэньне на 3-яй бач.)**

**Юрка Віцьбіч**

4)

# «Кепска каля Віцебска, а ля Воршы 'шчэ горшы»

Не падлягае сумлеву, што найбольш небясьпечныя для царызму і бальшавізму іхнія ворагі гібелі ня ў двух паверхах за кратамі, а ў глыбейшым сутарэньні. Таму зразумела маё ўсхваляваньне, калі, дасьледуючы сьцены гэтага сустарэньня, пабачыў параўнальна нядаўна выдрапаныя словы:

Няўжо я ніколі больш не пабачу сонца?

Хто адбіў у гэтых словах свой перадсьмяротны стогн? Сьпярша адразу прыгадалася француская жаўнерская песьня:

Заўтра людзі сустрэнуць сонца,
Будуць есьць і піць
І навет мо' ня ўспомняць,
Як мы хацелі жыць.

Аднак можа сум францускага жаўнера найбольш выпукляўся на прыгожым фоне адбітым у словах украінскага паэты:

На сьвеце ёсьць пявучы Лянгедок,
Шампань-квітненьне Францыі вясёлай,
Дзе сонца песьціць кажны хутарок,
А ў вінаградах патанулі сёлы, —

— але сама па сабе несла ды нясе свае пакуты закутая ў кайданы Маці-Беларусь.

У змаганьні з расейскім царызмам Ворша займае на Беларусі адно зь першых месцаў. Вядома, што на працягу рэвалюцыі 1905 году сюды на чыгуначны вузел і ў горад дасылаліся ўрадам 4 роты 314-га пяхотнага Каднікаўскага палка, рота 185-га пяхотнага Сядлецкага палка, рота пяхотнага Рыбінскага палка, батарэя 67-ае артылерыйскае брыгады, сотня 2-га Данскога казацкага палка, эскадрон 3-га драгунскага Сумскага палка, эскадрон лейб-гвардыі гусарскага Гродненскага палка. І пэўне-ж найбольшы адбітак гэтая заўзятая барацьба знайшла ў напісаным канцэлярыйнай мовай «Данясеньні памочніка Магілёўскае губэрскае жандарскае ўправы ў Дэпартамэнт паліцыі аб забастоўцы на станцыі Ворша» ад 12 кастрычніка 1905 году.

«11 сего октября», каля 4-ае гадзіны ўдзень, на плятформы Маскоўска-Берасьцейскае чугункі зьявілася невядомая маладая жанчына і зьвярнулася да работнікаў і пасажыраў з словамі:

— Падыйдзіце да мяне бліжэй, мне трэба вам штосьці сказаць. Вакол яе адразу стварыўся «натоўп з 300 чалавек», якому яна пачала чытаць «нейкую праклямацыю», растлумачваючы ейны зьмест і ўрэшце вельмі галасна выклікнула:

— Далоў самадзяржаўе!

— што адразу паўтарыў увесь натоўп. Жандары і салдаты, зьбіваючы работнікаў, што абаранялі гэтую жанчыну, схапілі яе і павялі ў Варшанскую турму, але чыгуначнікі на рамізьніку іх апярэдзілі, і ў самым горадзе яшчэ большы натоўп з тым-жа крыкам:

— Далоў самадзяржаўе!

— спрабаваў выратаваць арыштаваную. Каля самае турмы гэтая жанчына зьвярнулася да народу:

— Бывайце, браткі!

І далей у жандармскім данясеньні зазначаецца:

«Затрыманая адмовілася падаць сваё імя, яна беларускапольскае народнасьці, год 25».

У перакладзе з расейска жандарскае мовы на нашую не падлягае сумлеву, што невядомая жанчына растлумачвала зьмест лістоўкі пабеларуску, а пасвайму веравызнаньню зьяўлялася каталічкай. Хто яна — Алёіза? Адэля? Зося? Юзефа? мы ня ведаем, але для ўсіх нас яна:

Дарагая! Родная! Незабытная!

Варшанцы ўпарта сьцьвярджаюць, што ў гэтым самым сутарэньні гібеў агульназнаны антыбальшавіцкі партызан Чырвонец. Той самы Чырвонец, зь вядомага на Радані Цёмнага Лесу, што гаспадарыў у 14 раёнах. Той самы Чырвонец, які ў прысьвечанай яму п'есе ўзвышэнца Васіля Шашалевіча «Воўчыя ночы» гаворыць:

— «Усюды, дзе ступіць наша нага, агонь сялянскіх паўстаньняў будзе шугаць да самога неба! І гэта будзе сялянская рэвалюцыя супраць бальшавікоў, рэвалюцыя, якой яшчэ ня бачыў сьвет!

І хай сабе ня ў Воршы, а ў лютым 1925 г. у горадзе Клімавічах скончыўся жыцьцёвы, да мэтэору падобны шлях Чырвонца, але характэрна, што народ спалучае ягоныя пакуты менавіта з гэтым жудасным сутарэньням.

Можна яшчэ больш падкрэсьлівае ўсю брыдоту царызму тое, што, прыстасаваўшы будынак пад турму, ён спакінуў на ягоным франтоне барэльеф сьвятога Францішка Асіскага. Што мае агульнага з кратамі і ланцугамі сьвяты, які маліўся за людзей да зьяўленьня стыгматаў-крывавых адзнакаў Хрыстовых ранаў на сваім целе, які, акрамя людзей, любіў кветкі і птушкаў, мянуючы іх сваймі «малымі сёстрамі». І хіба ня цудам ёсьць тое, што летась у Асізах паміж штучных ружаў, якія трымае ў руках статуя сьвятога Францішка, зьвіла сабе гняздо птушка, а сёлета зьвярнулася з выраю зноў да яго, якое ніхто зь людзей не адважыўся зьнішчыць. Бальшавікі зьнішчылі барэльеф, зьмясьціўшы на ягоным месцы эмблему прафсаюзу дрэваапрацоўнікаў, а пад ёй выбілі сугучныя кратам і ланцугом словы Леніна:

Прафсаюзы — школа камунізму.

Дарэчы на даху будынку яны пабудавалі пляцоўку для вартаўніка, які меўся ахоўваць гэтую цяперашнюю бальшавіцкую маёмасьць ад замежных «дывэрсантаў».

Паблізу ад колішняга агульнажыцьця францішканаў узвышаецца іхні-ж велічны старадаўны касьцёл. З чатырох бакоў падпіраюць ягоныя сьцены кантрафорсы, гэтак характэрныя для старасьветчыны. Калі пасьля паўстаньня 1861 г. расейскі царызм скасаваў у Воршы, як і па усёй Беларусі бадай усе каталіцкія манастыры і касьцёлы, дык, зачыніўшы тутэйшы францішканскі манастыр, спакінуў ягоны касьцёл, як парафіяльны для каталікоў Воршы і ейнага павету. Аднак няма і ў гэтай галіне розьніцы паміж царызмам і бальшавізмам. Калі першы, далучаючы з вуніі да праваслаўя з дапамогай казацкіх бізуноў, адначасна адлітоўваў мэдалі з надпісам:

«Отторженные а ненавистью, возвращенные с любовью», — дык другі, арыштоўваючы аднаго за адным ксяндзоў, накладаючы на касьцёлы вялікія падаткі, прымусіў такім чынам тутэйшых вернікаў у 1920 г. «дабраахвотна адмовіцца ад касьцёла». Пасьля гэтага ў будынку за розныя часы зьмяшчаліся — піянэрскі клюб, прафтэхшкола, аўташкола Белдзяржтрансу і нарэшце гараж таго-ж самага «трансу». І за гэтыя-ж часы бальшавікі ськінулі ягоны кумпал з крыжам, пабудаваўшы на іхным месцы ня толькі блюзьнерскую ўвогуле, але й тэхнічна ўбогую пляцоўку для зэнітных кулямётаў.

**(Далей будзе)**

# Беларуская гімназія ў Навагрaдку

(Успаміны)

(Працяг з папярэдніх нумароў)

Беларуская Гімназія ў Навагрaдку была да 1929 г. прыватнаю і, як было сказана вышэй, яе пасьветчаньні сьпеласьці не давалі права ўступаць матурыстым у польскія высокія школы. Яны змушаны былі шукаць аддушыны паза межамі Польшчы, каб здабыць высокую асьвету. Гэта быў для паняволенае беларускае моладзі цяжкі шлях, што быў зьвязаны зь нелегальным пераходам граніцаў (аб атрыманьні заграпічнага пашпарту ня прыходзілася навет і думаць) і паўгалодным жыцьцём.

З 1929/30 школьнага гаду гімназія атрымала дзяржаўныя правы й нашым матурыстым адчыніліся дзьверы польскіх унівэрсытэтаў і другіх высокіх школаў. Як-жа гэта сталася, што польская ўлада здабылася на такую ласку? Да часу разгрому Беларускае Грамады польскі ўрад вёў палітыку хуткае паланізацыі Беларусаў. Аднак магутнасьць Беларускае Грамады й рост іншых арганізацыяў паказала адваротнае й таму польская ўлада, не адмаўляючыся ад мэты асыміляцыі, пачала падыходзіць да гэтае справы зыгзагамі допускаючы кароткія праявы лібералізму. Такі лібералізм быў праяўлены да Беларускае Гімназіі ў Навагрaдку тадышнім нованазначаным Навагрaдзкім ваяводаю Бэчковічам. Азнаёміўшыся навочна з дрэннымі ўмовамі гімназіі ваявода Бэчковіч разам з тадышнім Навагрaдзкім старостаю Грынеўскім і яго жонкаю заапякаваўся ёю: было нанятае лепшае памешканьне для гімназіі, наняты будынкі для жаночае й хлапецкае бурсы, заснаваны камітэт будовы гмаху беларускае бурсы, здабыты правы гімназіі й пару этатаў настаўнікам яе й нарэшце ў 1931-32 школьным годзе гімназія былаператворана ў філію панствовай гімназіі імя А. Міцкевіча ў Навагрaдку. З вымененых рэформаў заслугоўвае на асаблівую ўвагу камітэт будовы гмаху беларускай бурсы. Пякучая патрэба ўласнага будынку гімназіі й дух лібералізму былі выкарыстаны да актыўнага зрэалізаваньня будовы гмаху. Настаўнікі й прыхільнікі гімназіі стварылі камітэт, у які ўвайшлі прадстаўнікі беларускага й польскага грамадзтва з старшынёю старасьцінаю Т. Грынеўскаю й заступнікам яе адвакатам П. Сьвірыдам. Статут к-ту быў зацьверджаны акруговым судом з назовам: КАМІТЭТ БУДОВЫ ГМАХУ БЕЛАРУСКАЙ БУРСЫ У НАВАГРАДКУ. Як праўная арганізацыя к-т адразу прыступіў да працы. На яго просьбу магістрат Навагрaдку бясплатна ахвяраваў пляц, а ваявода Бэчковіч выдаў дазвол на збор ахвяраў сярод насельніцтва Навагрaдзкага павету. Сьвятой памяці Інж. Мацееўскі, сябра к-ту, апрацаваў плян гмаху й каштарыс яго на агульную суму 300,000 зл. Паводля гэтага пляну прадбачваўся не будынак бурсы, а 4-х павярховы гімназіяльны гмах з клясьнымі пакоямі, кабінэтамі й вялікаю заляю. Запраектавана было паравое аграваньне, але, поруч з гэтым былі пабудаваныя й кахлявыя печы на дровы. Разыходжаньне статуту з плянам было таму, што, згодна з праўнымі вымогамі, гімназіяльны будынак мог будавацца тады толькі мадэрны, кошт якога сягаў-бы мільёну, а можа й больш, злотых, што было не пад сілу Беларусам, безь дзяржаўнае дапамогі.

Дазвол ваяводы на збор ахвяраў і бесьпасярэдні ўдзел у ім настаўнікаў і сяброў к-ту гэтак зацікавіў беларускае насельніцтва Навагрaдзкага павету, што, праўдападобна, ня было гаспадаркі, якая-бы не ўнясла свае ахвяры. Мне прыдзелена была Негнявіцкая гміна й я ў часе збору ахвяраў перажыў некалькі ўзрушаючых мамэнтаў. Сяляне пераважна ахвяроўвалі збожжа й адзін перад другім стараліся даць больш. Але сярод пудовых ахвяраў прыносіліся найбяднейшымі сялянамі й фунтовыя, што сьветчыла аб адданасьці іх да свае роднае справы. Хіба што гэтыя ахвяры ў параўнаньні да маёмасьці ахвярадаўцаў былі найбольшыя. Ужо прайшло больш як 25 гадоў ад часу збору ахвяраў, а яшчэ й сягоньня рэпрадукуюцца словы аднае старэнькае жанчыны: «Вазьмеце й ад мяне гэтых пару жменяў жыта, бо больш ня маю. Можа дасьць Бог і мае ўнукі будуць хадзіць у сваю родную школу». Гэтая старэнькая жанчына інтуіцыйна вычула, што значыць свая школа. Зразумела, што беларускае дзіця траціла гады ў чужой школе на вывучэньне чужой мовы й дзякуючы гэтаму адставала ў навуцы і перапіхалася праз цэлую школу. Практычна выглядала так, што пасьля сканчэньня польскае пачатнае школы сотні тысячаў беларускае моладзі праз некалькі год зноў варочаліся да анальфабэтызму — спадарожніку духовае нявол. Сабранае збожжа было праданае й ахвяры дасягнулі некалькі дзясяткаў тысячаў. У дадатку да гэтага была ахвявана значная колькасьць драўлянага матарыялу на рыштаваньне й прывезены каменьні на фундамэнт гмаху. Настаўнікі разам з вучнямі зраўнялі ахвяраваны пляц і выкапалі паглыбленьні на фундамант. Будаўляны камітэт закупіў у Горадні 100, 000 цэглы, якую пераважна бацькі вучняў перавязьлі са станцыі Навагрaдак на школьны пляц. Такім чынам амаль усё было прыгатавана да закладу фундамэнту й мураваньня гмаху.

Трапілася так, што ў гэтым 1929 г. у восені адбыўся аб'езд Навагрaдчыны прэзыдэнтам польскае рэспублікі праф. І. Масьціцкім. Гэты мамэнт быў выкарыстаны із згодаю й падтрымкаю ваяводы Бэчковіча будаўляным камітэтам для закладкі прэзыдэнтам вуглавога камсня пад будову гмаху. Працэс закладкі быў вельмі ўрачысты. На гімназіяльным пляцы адбылася служба Божая з удзелам Горадзенскага Япіскапа Аляксея й навагрaдзкага праваслаўнага сьвятарства. Пасьля гэтага прэзыдэнт у прысутнасьці свае сьвіты, Навагрaдзкага ваяводы й старосты, будаўлянага камітэту, дырэктара, настаўнікаў і вучняў гімназіі ды масы грамадзтва зрабіў закладзіны й тут-жа злажыў сваю ахвяру. Гэты асаблівы выпадак стварыў сярод беларускага грамадзтва ўпэўненасьць спрыяльных адносінаў польскае ўлады да Беларусаў дый заахвоціў беларускае грамадзтва да большае ахвоты будовы свайго гмаху.

Надыйшла зіма і ўсякія работы пры будове прыпыніліся. Камітэт будовы меў вялікія выдаткі й яго матарыяльныя сродкі значна паменшыліся. Ня гледзячы на гэта, сябры будаўлянага камітэту мелі запал да далейшае працы й з надыходам вясны пачалі рэалізаваць сваю думку. Сталася так, што старшыня камітэту Т. Грынеўская выехала на пару месяцаў з Навагрaдка й функцыі старшыні пачаў выконваць заступнік адвакат П. Сьвірыд. На паседжаньні камітэту было пастаноўлена неадкладна прыступіць да далейшае будовы. Вапну Навагрaдзкія купцы пагадзіліся даць у крэдыт, а Івенецкія муляры чакаць плату за мураваньне. Хутка пачаў расьці будынак. Да павароту

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Трэба праводзіць паралель

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

губэрняў і іншых раёнаў краіны спрыялі расшырэньню кругагляду працоўных масаў беларускага народу, абмежаванага інтарэсамі прыгоннай вясковай ваколіцы, разбурэньню аджываючых традыцыяў патрыярхальнага быту ў беларускай вёсцы, **умацаваньню брацкіх сувязяў і дружбы беларускага народу зь вялікім расейскім народам».**

А што-ж маем сяньня? Паншчына ў калгасах, выкарыстаньне рабочае сілы на заводах, мільёны ахвяраў «камуністычнага» будаўніцтва, высыланьне моладзі на катаржныя работы ў Сібір і на апрацоўку залежных земляў ды нарэшце нацыянальная дыскрымінацыя, — усё гэта зноў-жа хаваецца пад прагрэс, праўдзівае разьвязаньне нацыянальнага пытаньня, пабудову новага грамадзтва на праўдзівай сацыяльнай аснове. Тут патрэбна праводзіць паралель, а не хаваць агульны назоўнік пад прыметнікамі прагрэсу, новага тыпу шматнацыянальнае дзяржавы з раўнапраўнасьцяй нацыяў. Мабыць прыдзе час, калі і Карнейчык пастараецца ўжыць параўняльны мэтад (аналёгію) у вывучэньні гісторыі і выкіне назаўсёды із сваіх высноваў абабітую савецка-расейскую фразу «прагрэсаў» ды шуканьня неапраўданае дружбы народаў.

**П. Залужны**

# У паняволенай Беларусі

### АБ ДОБРАЎПАРАДКАВАНЬНІ ГАРАДОЎ БССР

Гэтак званае «добраўпарадкаваньне гарадоў» амаль ня выходзіць з бачынак савецкае прэсы. У кажнай газэце мы пабачым фотарэпартажы з паасобных гарадоў БССР, артыкулы прысьвечаныя гэтаму-ж добраўпарадкаваньню, дзе зарэгістроўваюцца што-раз то новыя «дасягненьні». Гэта адзін бок мэдалі. А цяпер глянем на тыя шматлікія лісты чытачоў у рэдакцыі савецкіх газэтаў і зь іх мы даведаемся запраўдны стан рэчаў. Вось колькі выняткаў з гэтых лістоў:

«… Калі вам прыдзецца калі-небудзь пабываць у раённым цэнтры Церахоўка, Гомельскай вобласьці, дык абавязкова загляньце на Вакзальную вуліцу. Перад вамі адкрыецца панарама працягнутых уздоўж вуліцы натуральных вадаёмаў. Плаўна плывуць па вадзе качкі й гусі. Па берагох задаволена пахрукваючы, адпачываюць у гразі сьвіньні. Вечарамі тут часта разьлягаецца душа-разьдзіральнае «Ратуйце!» Не падумайце, што кагосьці рабуюць. Не! Проста неасьцярожны пешаход тоне на вуліцы».

(«Советская Белоруссия», 18. 10. 56)

«На ўскраінах гораду Магілёва не асьвятляюцца тратуары. Навет на тых вуліцах, дзе ёсьць слупы й лямпачкі, сьвятла няма. Ад вады тут ужо паўтвараліся цэлыя яры… Неаднаразовыя сыгналы працоўных у горвыканком і горкомунгас не бяруцца на ўвагу…» (Тамсама).

«… Ня гледзячы на тое, што за 50 мэтраў знаходзіцца электрастанцыя, у пасёлку (на ўскраіне Менску) няма сьвятла… За хлебам і іншымі прадуктамі трэба хадзіць у пасёлак трактарнага заводу, а Сталінскі райспажыўгандаль і ня думае адкрываць тут гандлёвае прадпрыемства…» (Тамсама).

«… Пасёлак імя Луначарскага налічвае 30 двароў, а студні ў ім няма. Жыхары пасёлку змушаныя хадзіць па ваду за кілямэтар на раку Сож…» (Тамсама).

«Гарадзкая бібліятэка № 2 у Полацку мае ў сваім фондзе 12 тысяч кніжак. . Услугамі бібліятэкі карыстаецца 700 чытачоў. Але бяда ў тым, што да гэтага часу яна цясьніцца ў прыватным невялікім пакоі, якога ледзь хапае для таго, каб як-небудзь памесьціць кніжкі…» (Тамсама).

«За апошнія гады ў раёне мінскага цагельнага заводу № 2 вырас вялікі працоўны пасёлак. Доўгі час у гэтым раёне ня было ніводнай водазборнай калёнкі. Прыходзілася за кілямэтар хадзіць па ваду на цагельны завод.

Нарэшце ў красавіку гэтага году пракалі вадапровод, змантавалі некалькі вадазборных калёнак. Але на гэтым справа закончылася. Праходзяць месяцы, а вады ўсё няма.

На нарадзе над пытаньнем добраўпарадкаваньня ўскраін гораду, што адбылася ў чэрвені, старшыня Фрунзенскага райвыканкому тав. Сямёнаў абяцаў, што ня больш як праз два месяцы жыхары атрымаюць ваду. Мінула чатыры месяцы, а абяцаньне ўсё яшчэ ня выканана.

(Зьвязда», 16. 10. 56)

«Калі каму-небудзь давядзецца ехаць у Полацак, то няхай паклапоціцца загадзя аб гумовых ботах, бо ні ў якім іншым абутку нельга прайсьці тут па ўскраінных вуліцах. У залінейнай частцы гораду, гэтак званых Громах, столькі выбоін і ям, запоўненых вадой, што ні пешаход, ні машына ня пройдуць тут…»

(«Зьвязда», 25. 10. 56)

### САВЕЦКАЯ СОЦРЭАЛЬНАСЬЦЬ

У менскай «Зьвязьдзе» з 25-га кастрычніка на цэлай першай бачыньцы зьмешчаны заклікі ЦК КПСС да 39-и гадавіны кастрычніцкай рэвалюцыі. З гэтых 84 заклікаў 73-ці гучыць наступна: «Работнікі народнай асьветы! Павышайце якасьць навучаньня і выхаваньня дзяцей, змагайцеся за політэхнізацыю школы!» і 79-ы: «Піянэры і школьнікі! Упорна і настойліва авалодвайце ведамі! Будзьце працавітымі і дысцыплінаванымі, дабівайцеся посьпехаў у вучэньні! Рыхтуйцеся стаць актыўнымі будаўнікамі камунізму ў нашай краіне!»

І цяпер у тым-жа самым нумары газэты, толькі ўжо на 3-й бачынцы чытаем допіс пад загалоўкам «Чаму няма ў продажы сшыткаў і падручнікаў?» Дапішчык сьцьвярджае наступнае:

«Кажны дзень у наш невялікі магазын заходзяць дзясяткі пакупнікоў — вучні і іх бацькі. Шматлікія зь іх пытаюцца сшыткаў «у клетачку», «у вадну лінейку», для маляваньня.

— Такіх сшыткаў няма, — вымушаны адказваць мы.

З гэтым-жа пытаньнем да работнікаў магазыну няраз зьвяртаюцца настаўнікі сельскіх школ. Нядаўна да нас зайшоў загадчык райана тав. Жураўлёў і перш за ўсё спытаў:

— Чаму няма сшыткаў?

Адказаць што-небудзь пэўнае тав. Жураўлёву мы не змаглі. І запраўды работнікі магазыну самі ня ведаюць, чаму не паступаюць у гандлёвую сетку сшыткі, у якіх маюць патрэбу вучні сельскіх школаў.

Вельмі трывожнае становішча стварылася і з падручнікамі для 1-4 клясаў пачатковай школы. Няма букварoў, падручнікаў гісторыі, геаграфіі, арытмэтыкі, граматыкі. Калі ў сувязі з гэтым мы зьвяртаемся ў Горадню да дырэктара аблкнігагандлю тав. Кулінковіча, атрымліваем такі адказ:

— Гэтага ў нас і ў Горадні няма…

Як усё-ж быць?» — заканчываецца гэтая дапіска.

І вось клічы клічамі, а соцрэальнасьць застаецца.

★

**Бульба**

(19. 10. 56) Нажаль, на 15 кастрычніка ў рэспубліцы сабрана бульбы ўсяго толькі 71,4%. Калгасы, МТС і саўгасы могуць і павінны хутчэй зьбіраць бульбу…

(Радыё — Менск)

17)

# На нівах і ўзвышшах беларускага слова

## Дзядзька Пранук

У «Нашай Долі» пад псэўдонімам «Дзядзька Пранук» выступіў упяршыню й яшчэ адзін зь ейных рэдактароў, Пранцішак Умястоўскі, творы якога (ужо пераважна празаічныя) час-часом, эпізадычна зьяўляліся й пасьлей, але ўсьцяж як творы эпізадычнага, час-часовага, а ня сталага пісьменьніка. Падаваны гэтта ягоны верш «Вецер», зьмешчаны прытном за Коласавым «Асеньнім вечарам» у № 2 «Нашае Долі», становіць сабою выразную рэпліку на гэты Коласаў верш, алегарычна разгортаючы канцавое там рэтарычнае пытаньне да «ветра», вобраз якога, пэрсаніфікаваны й алегарызоўваны, адзін з найулюбянейшых вобразаў далейшае нашаніўскае паэзіі (у згодзе з традыцыяй аж самое народнае паэзіі, не адкіданае й папярэднюю кніжнаю, ад Сыракомлі й да Пашкевічанкі).

**ВЕЦЕР**

Гудзіць у поўнач, сосны ломіць
І плачаць вецер у бары,
І белы сьнег да неба гоніць…
Чаму-ж так, вецер, плачаш ты?

— Ах, плачу я, што ноч бяз сонца,
Нідзе дарогі не знайду,
І так кідаюся бясконца,
Ня знаю сам, куды ляту.

У грудзёх баліць, і сэрца млее,
І так маркотна на душы…
Калі-ж дзянёк нам заясьнее?
Чаму так, сэрца, млееш ты?

## З. К.

Пад гэткімі літарамі-крыптонімамі зьмешчаныя ў «Нашай Долі» вершы «Ночка» (№ 3) і «Дзе шчасьце?» (№ 4; пад гэтым-жа крыптонімам ёсьць вершы й у першых нумарох «Нашае Нівы). Расшыфраваць гэты крыптонім тымчасам не даецца, няма пад рукамі й поўных тэкстаў самых вершаў. Некаторае ўяўленьне пра іх могуць даць адно даступныя зь некаторых артыкулаў цытаты. Зь іх верш «Ночка» выглядае на звычайны ў нашадольсьцьве-нашаніўсьцьве маналёг лірычнага наракальніка, моўна й тэхнічна на нявысокім, ды таксама-ж не нязвычайным тады ўзроўні:

Цёмна ты, длінна, нявесела,
Так як жыцьцё мужыка…
Толькі хмароў панавесіла,
Зь іх дождж ліе, як рака…

Вот кабы скончылась ночанька,
Каб дзень сьвятленькі настаў,
І каб на то мая мочанька,
Гэту-б цямносьць разагнаў…

Доўга, доўга людзям прыдзецца
Шчасьця на зямлі шукаць,
Не адна к нам ночка вернецца
Новы думкі наганяць…

У вершы «Дзе шчасьце?» адказ на гэтае пытаньне даецца зусім у духу прапагаванага першаю перадавіцаю «Нашае Долі» культу друкаванага слова — «чытаньня», «навукі» шырэй:

…Хто кажа, што у лепшай долі,
Хто ў зямлі, у хлебе, у народнай волі,
У здароўі, ў славе, ўсялякай раскошы,
Хто кажа, што найлепей, калі ёсьць грошы,
А ніхто не памысьле і не зразумее, 4
Што без навукі гэта вецер чыста зьвее
І што без навукі, бяз добрага чытаньня
Нічога з багацьця людзям не застане…

## Паэты "гедвілаўскае" "Нашае Долі"

Творы папярэдніх пісьменьнікаў — Пашкевічанкі, Коласа, Дзядзькі Пранука, З. К. — зьявіліся ў першых чатырох, умоўна «луцкевіцкіх» нумарох «Нашае Долі», ніводзін зь іх ня ўзяў удзелу ў вапошніх двух, умоўна «гедвілаўскіх» нумарох, дзе выступілі зь вершамі іншыя паэты пад іншымі псэўдонімамі — Гэля Нядольны, Будзіцель, І. Ізгур. Паводля ак. Карскага, «Будзіцель» — псэўдонім Тукеркеса, падстаўнога рэдактара-выдаўца «Нашае Долі», пра прыналежнасьць іншых пералічаных псэўдонімаў тымчасам няма ніякіх вестак. Паколькі ведама, што ў «гедвілаўскіх» нумарох бралі ўдзел усяго дзьве асобы — Тукеркес і Гедвіла, дык можна думаць, што псэўдонімы гэтыя неяк разьмяркоўваюцца між іх двух. З прыраўнаньня мовы іхных вершаў з моваю іншых газэтных матар'ялаў «гедвілаўскіх» нумароў, робленых, паколькі ведама, адным Гедвілам, выглядае, што можна квэстыянаваць прыналежнасьць псэўдоніму «Будзіцель» Тукеркесу на карысьць Гедвілы, якому найбольш праўдападобна было-б прыпісаць і псэўдонім «Гэля Нядольны, тымчасам як зусім іншы моваю й самым характарам псэўдоніму «І. Ізгур» як-бы больш паказвае на Тукеркеса. Агулом бяручы, паэты «гедвілаўскае» «Нашае Долі» ня вылучаюцца бадай нічым асаблівым з паэтаў-нашадольцаў у ніякім дачыненьні; у далейшай літаратуры яны больш не зьяўляюцца. Падаем узоры іхных вершаў для ўяўленьня аб іх.

## Гэля нядольны

У нас няма пад рукамі цэласьці ягонага вершу «Вер — над нашым цёмным краем», зьмешчанага у № 5 «Нашае Долі», дык можам падаць толькі даступныя з артыкулаў іншых аўтараў цытаты для ўяўленьня:

Вер — над нашым цёмным краем
Сонейка ўзыйдзе…

Ноч ня вечна будзе дліцца,
Пабляднеець цень,
І займецца над зямлёю
Ясны, ціхі дзень.

Гнёт няволі векавечнай
З душ людзкіх спадзець,
І свободна, абнаўлёна
Чалавек уздыхнець…

(Далей будзе)

# Мадзяршчына топіцца ў моры крыві

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

даўна пісаў, што гістарычнае значэньне цітаізму або нацыянал-камунізму палягае на тым, што ёсьць ён бунтам супраць ужываньня камунізму ў якасьці аружжа расейскага імпэрылізму. Цітаізм, — гаворыць Ліпман — ёсьць у камуністычным сьвеце такім самым бунтам супраць каляніялізму й імпэрыялізму, якім ёсьць нацыянальныя незалежніцкія рухі ў некамуністычным сьвеце. Калі-б розныя камуністычныя дзяржавы ўнезалежніліся, Расея перастала-б быць цэнтрам імпэрыі, што вядзе крыжовы паход супраць Захаду, а сталася-б звычайнай вялікадзяржавай. А апошнія выпадкі за зялезнай заслонай як ня трэба лепей паказалі, што між расейскімі камуністымі і камуністымі іншых народаў існуе вялізарная розьніца.

Як паведамляе заходняя прэса, сярод тых савецкіх жаўнераў, што падчас баёў у Мадзяршчыне пераходзілі на бок паўстанцаў, галоўным чынам былі людзі нерасейскае нацыянальнасьці. Як ведама, пралёгам да паўстаньня ў Мадзяршчыне была дэманстрацыя мадзярскіх студэнтаў 19 кастрычніка, якія высунулі чатыры дамаганьні. А на першым месцы стаяла дамаганьне скасаваньня абавязкавага навучаньня расейскае мовы. Значыцца, першае канкрэтнае дамаганьне было накіраванае на спыненьне русыфікацыі мадзярскага народу. Канчальнай мэтай і рэвалюцыі ў Мадзяршчыне, і маніфэстацыяў у Польшчы было дамаганьне вываду савецкіх войскаў, як чужое акупацыйнае збройнае сілы, і прывярненьня поўнай дзяржаўнай незалежнасьці й нацыянальнае свабоды гэтых краінаў. Дык і тут патрабаваньні выключна нацыянальнага характару.

Паўстаньне ў Мадзяршчыне распачалося й праводзілася пад нацыянальнымі лёзунгамі паўстаньня 1848—49 году, а так-жа пад ня менш вымоўнымі для сучаснасьці лёзунгамі, як **»Прэч з Расеяй!», «Расейцы, ідзіце дамоў!», «Мы хочам самастойнасьці й сувэрэннасьці!» і г. п.**

І вось тут на маргінэсе прыходзіцца закрануць адну вельмі прыкрую справу. Кіраўніцтва мюнхэнскага радыя «Вызваленьне», на працягу ўсяго паўстаньня не дазваляла перадаваць якіх-колечы камэнтараў аб падзеях у Мадзяршчыне, а абмяжоўвалася да перадаваньня выключна сухіх паведамленьняў і прэсавых камунікатаў. Але гэта яшчэ было-б поўбяды, калі-б ня тое, што амэрыканскае кіраўніцтва радыя аўтэнтычныя словы зь лёзунгаў мадзярскіх паўстанцаў «Расея», «расейскі» замяняла словамі «Саветы», «савецкі», хвальшуючы гэтым запраўдны стан рэчаў і дэзінфармуючы сваіх слухачоў у Савецкім Саюзе. Таму мы поўнасьцю разумеем усё тое абурэньне, якое выклікалі такія факты сярод нерасейскіх працаўнікоў радыястанцыі і наагул эміграцыі. Гэткага несамавітага роду «непрадрашэнства» ёсьць ужо яўным адзінанедзялімаўскім прадрашэнствам.

### А ЯК ЗАРЭАГАВАЎ ЗАХАД?

Мадзярскае паўстаньне выбухнула ў найбольш нявыгодны палітычны мамэнт, калі Амэрыка знаходзілася напэрэдадні прэзыдэнцкіх выбараў і ейная ініцыятыва была спаралiжаваная. Ня гледзячы, аднак, на гэта, былі дзіўнымі пагляды Далеса, выказаныя ім яшчэ ў дачыненьні да Польшчы. Паводля справаздачы лёнданскага «Таймса», меў ён заявіць, што «трэба сумлявацца, ці ўваход савецкіх войскаў у Польшчу мог-бы быць названы агрэсіяй, бо Варшаўскі пакт дае Саветам права трымаць свае войскі ў Польшчы», хаця тут-жа адцеміў, што ўвядзеньне гэтых войскаў у акцыю ствaрыла-б «вельмі сур'ёзную сытуацыю». Гэтае высказваньне амэрыканскага дзяржаўнага сакратара выглядае тым больш дзіўным у сувязі з тым, што Варшаўскі пакт дае права ягоным удзельнікам выклікаць на помач савецкія войскі толькі у выпадку агрэсіі звонку, а выпадкі ў Польшчы й Мадзяршчыне юрыдычна былі нутранай справай гэтых краінаў. Такое становішча Захаду і наагул ягонае пасыўнае вычэкваньне на выніке выпадкаў паказалі, што афіцыяльная лінія заходняй палітыкі ўважае, што канфлікт між Польшчай і Мадзяршчынай з аднаго боку, а Савецкім Саюзам — з другога ёсьць нутранай справай у камуністычнай сям'і.

І толькі на шосты дзень мадзярскай рэвалюцыі на дамаганьне Амэрыкі, Вялікабрытаніі й Францыі была скліканая Рада Бясьпечнасьці, якая асудзіла Савецкі Саюз за ўмешваньне ў нутраныя справы Мадзяршчыны. Гэтая пастанова была, аднак, спаралiжаваная савецкім вэто, прычым Югаславія ўстрымалася ад голасу. Такім чынам справа была адложаная на неазначаны час. Ды, напасьледак, сам ход выпадкаў ня выклікаў асаблівай патрэбы міжнароднай інтэрвэнцыі. Паўстанцы ў Мадзяршчыне перамагалі, у Крэмлі было зроблена некалькі заяваў аб гатоўнасьці Савецкага Саюзу перагледзець свае ўзаемадачыненьні з сатэлітамі і аб вывадзе зь іхнай тэрыторыі савецкіх войскаў. Адначасна з гэтым савецкія войскі перасталі страляць у паўстанцаў і пачалі пакідаць Будапэшт. Здавалася, паўстаньне перамагло і Саветы скапітулявалі.

Але, як хутка выясьнілася, быў гэта толькі хітры манэўр Крэмля, патрэбны па тое, каб або выйграць на часе, або каб замяніць няпэўныя вайсковыя часьці, зь якіх пачало шмат пераходзіць на бок паўстанцаў, войскамі сьвежымі й больш пэўнымі. Бо ўжо 1 лістапада сталася ведамым, што на тэрыторыю Мадзяршчыны ўвайшло з Савецкае Украіны каля 300 новых танкаў, за імі пачалі йсьці наступныя, накіроўваючыся на Будапэшт і ў бок аўстрыяцка-мадзярскай граніцы. Новыя савецкія войскі яшчэ ня ўступалі ў акцыю, але над Мадзяршчынай завісла трывога.

### АНГЕЛЬСКА-ФРАНЦУСКІ КЛІН

У гэты грозны мамэнт, калі Захад павінен быў узгоднена й станоўча дзеіць і калі гэта ня было яшчэ позна, Ангельшчына й Францыя распачалі ваенныя дзеяньні супраць Эгіпту. Выглядала, што ў той час, калі ў Мадзяршчыне былі пакладзены на шалю справы жыцьця або сьмерці цэлага народу, калі аднэй толькі энэргічнай і станоўчай палітычнай акцыяй можна было задаць балючы ўдар Савецкаму Саюзу й распачаць вызвольны працэс паняволеных ім народаў, Ідэн і Моле выкарысталі гэтую сытуацыю па тое, каб зрабіць свой бізнэс у Суэзе. Па колькі Захад не патрапіў выкарыстаць цяжкай і клапатлівай сытуацыі Саветаў, патолькі Саветы поўнасьцю выкарысталі гэты неразважны крок Ангельшчыны й Францыі. З агрэсара яны адразу-ж перамяніліся ў вабароньніка перад агрэсіяй. Булганін 5 лістапада выслаў войструю ноту Ангельшчыне й Францыі, у якой, між іншым, гаварылася: «Мы цьвёрда наважаныя спыніць агрэсію сілаю й закончыць вайну ў Эгіпце». Той-жа Булганін прыгразіў Ангельшчыне й Францыі навет вадароднымі бомбамі, а ў сваей тэлеграме да прэзыдэнта Айзэнгаўэра перасьцярог перад трэйцяй сьветавай вайной у выпадку, калі Задзіночаныя Нацыі не паўстрымаюць англа-францускай агрэсіі ў Эгіпце. Саветы пасунуліся навет да такога нахабства, што запрапанавалі выслаць у Эгіпт савецкія й амэрыканскія войскі дзеля сумеснага спыненьня агрэсіі.

Трэба з асаблівым націскам падчыркнуць, што сытуацыя ў Эгіпце, дзякуючы авантурным крокам Насэра, сталася вельмі сур'ёзнай. Эгіпт, а тым самым Суэскі канал і пасярэдна ўвесь арабскі Сярэдні Ўсход апошнім часам на толькі падмінаваныя савецкай інфільтрацыяй, што ўвесь гэты нязвычайна важны раён можа быць для Захаду страчаны, калі апошні будзе глядзець бязьдзейна на ход выпадкаў. Таму ўважаем, што энэргічная інтэрвэнцыя Захаду ў Эгіпце, навет у выпадку патрэбы збройная, зьяўляецца патрэбная й канечная. Але гэта мусіла-б быць зроблена ў іншым часе: або перад мадзярскімі выпадкамі, або пасьля іх заканчэньня. Тымчасам гэта было зроблена тады, калі ўся ўвага заходняга сьвету мусіла быць зьвернута выключна на Мадзяршчыну. Выйшла так, што калі нехта ў гэныя крытычныя дні хацеў зрабіць услугу Маскве, дык большай услугі не магло-б быць, якую ім зрабілі Ідэн і Моле.

Таму зусім зразумелая была рэакцыя публічнай апініі на Захадзе. Падчас студэнцкіх дэманстрацыяў у гарадох Заходняй Нямеччыны супраць савецкага збройнага самапраўства ў Мадзяршчыне на несеных па вуліцах транспарэнтах Ідэн фігураваў разам з Хрушчовам і быў абдорваны тымі-ж самымі эпітэтамі, што Хрушчоў і Булганін. Зусім зразумелым было абурэньне ангельскіх ляйбарыстых, якія дамагаліся безадкладнай дымісіі Ідэна. І зусім зразумелым было таксама абурэньне Амэрыкі й Задзіночаных Нацыяў, якія ў эгіпскай справе выказалі куды больш станоўчасьці й сьмеласьці, чымся ў справе Мадзяршчыны.

Пад уплывам гэтае прэсіі Ангельшчына й Францыя спынілі на поўдарозе свае ваенныя дзеяньні ў Эгіпце, а Задзіночаныя Нацыі пастанавілі выслаць на тэрыторыю Эгіпту свае збройныя сілы для навядзеньня там поўнага парадку. Эгіпскі ўрад даў сваю згоду на гэтае мерапрыемства і ў мамэнт, калі пішуцца гэтыя радкі, першыя вайсковыя аддзелы некаторых дзяржаваў — сяброў Задзіночаных Нацыяў ўжо знаходзяцца ў дарозе ў Эгіпт.

### НА ПЛЕНУМЕ ЗАДЗІНОЧАНЫХ НАЦЫЯЎ

У той час, калі Захад быў заняты падзеямі ў Эгіпце, сканцэнтраваныя ў Мадзяршчыне вялікія савецкія сілы, колькасьць якіх перавышае 200.000 жаўнераў, шчыльна абставіўшы мадзярска-аўстрыяцкую граніцу, распачалі бязьлітасную крывавую расправу над мадзярскім народам. Яшчэ па дарозе ў Будапэшт бальшавікі сфармавалі марыянэткавы мадзярскі ўрад на чале з Кадэрам. Мадзярскія патрыёты, ня гледзячы на вялікую перавагу ворага, вядуць і надалей зацятае змаганьне, пераходзячы ад рэгулярнай да партызанскай вайны. Прэм'ер Надзь 1 лістапада паведаміў, што Мадзяршчына выйшла із Варшаўскага пакту, і зьвярнуўся да Задзіночаных Нацыяў, каб апошнія заняліся справай Мадзяршчыны.

Гэта дало магчымасьць Італіі паставіць справу Мадзяршчыны на парадку дня Задзіночаных Нацыяў. У часе дэбатаў над гэтым пытаньнем асудзілі савецкую агрэсію ў Мадзяршчыне ня толькі дзяржавы Захаду, але й паўдзённаазіяцкія краіны, а навет Індыя, Югаславія й Польшча. 9 лістапада Задзіночаныя Нацыі вялікай бальшынёй галасоў прынялі пастанову, у якой дамагаюцца безадкладнага выхаду з Мадзяршчыны савецкіх збройных сілаў і правядзеньня свабодных выбараў пад кантролем Задзіночаных Нацыяў.

Ці і якія будуць прынятыя меры правядзеньня ў жыцьцё гэтае пастановы, пакажуць найбліжэйшыя дні. Сяньня-ж з аднаго толькі астаецца цешыцца: гэта з аднагоднага асуджэньня й закляймаваньня савецкіх злачынстваў у Мадзяршчыне публічнай апініяй цэлага сьвету. Гэта выражаецца ў масавых антысавецкіх дэманстрацыях, разгромах савецкіх прадстаўніцтваў, байкатаваньні розных савецкіх мерапрыемстваў і дэлегацыяў, масавых выхадах зь ліку сяброў камуністычных партыяў і ў іншых падобных актах.

**Язэп Каранеўскі**

*Зь беларускага жыцьця*

# Усіх Сьвятых у Лювэне

1-га лістапада ў Лювэне была адслужаная Яго Прэасьвяшчэнствам япіскапам Рыгорам і а. А. Смаршчком Божая служба. Студэнцкі хор сьпяваў пад кіраўніцтвам а. Робэрта.

А 2-й гадзіне папаўдні студэнцкая група на чале з а. а. Аўгенам і Робэртам накіравалася на могільнік, каб там адслужыць паніхіду над магілкаю сьв. пам. праф. М. Равенскага.

Могільнік у гэты дзень выглядаў на вялізарную вітрыну кветак. Суцэльны кветкавы пэйзаж. Толькі на ўскраіне, паміж прыгожых помнікаў, аздобленых краскамі розных колераў, стаяла скромненькая магілка з крыху пахіленым крыжам, на якім ужо зь цяжкасьцю можна прачытаць надпіс. Гэта магілка нашага кампазытара, што ўсё сваё жыцьцё аддаў беларускай песьні. Калі яшчэ нядаўна я зь сябрам М. і зь «цёткай Альжбетай» (аўнты Бэты) з Брадфорду былі ўпрыгожылі магілку сьвежымі краскамі, дык цяпер засталіся толькі дзьве падстаўкі ад букетаў з замерзлай вадой у іх. Гледзячы на гэтую магілку мімаволі сьціскалася сэрца і зь не вялікай прыемнасьцяй спаміналася прозьвішча таго Беларуса, які ўзяўся рабіць помнік, і праз тры гады, апрача абяцанак, нічога так і не зрабіў...

Пасьля заканчэньня паніхіды, на ўшанаваньне памяці М. Равенскага, хор прасьпяваў ягонае «Магутны Божа». І тут здавалася, што запраўды паміж намі стаіць дарагі кампазытар із сваім прыемным тварам і лёгкай усьмешкай.

**Ул. Сьцяблевіч**

### БЕЛАРУСКІЯ ШКОЛКІ Ў НЬЮ ЁРКУ

У Нью Ёрку пачаліся заняткі ў дзьвюх беларускіх школках — у Брукліне 21 верасьня, на Мангатане — у пачатку кастрычніка. На Брукліне школка памяшчаецца ў доме сп. Д. Клінцэвіча (адрыс: 1148 Блейк Авэню), на Мангатане — у памяшчэньні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (33 Норфольк Стрыт).

☆

### БЕЛАРУСЫ Ў РОКФОРДЗЕ

Места Рокфорд ляжыць на захад ад Чыкаго (ЗША). Сюды апошнім часам пераехала на сталае жыцьцё й працу ладне Беларусаў зь іншых местаў Амэрыкі. Але арганізацыі беларускай тут нямашака. Пра яе павінны як найбарзьдзей парупіцца як тыя Беларусы, што цяпер тут жывуць, так і Беларусы з блізкага Чыкаго.

**Бр. Ск.**

### АСАБІСТАЕ

Найшчырэйшыя пажаданьні на новым жыцьцёвым шляху Спадарству Паўліку і Марце Ч-ц, складаюць — Дырыгент і харыстыя «Жалейкі». Спадзяемся, што і ў далейшым Сп. Паўлік яшчэ з большай энэргіяй аддасьць усе свае здольнасьці ў галіну культурна-мастацкага жыцьця.

Дык, шчасьці Вам Божа!

Даражэнькай і паважанай Алене, якая на працягу двух год цесна супрацоўнічыла з нашым хорам, з нагоды вясельля, найшчырэйшыя пажаданьні складаюць — Дырыгент і хор «Жалейка».

З нагоды жанімства спч-ні Тамары Грынько з сп-ром Пятром Воранам, хор «Жалейка» зычыць маладой пары шмат здароўя й шчасьця.

**«Жалейка»**

# Беларуская гімназія ў Навагрудку

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

Т. Грынеўскай першы паверх быў вымураваны, але камітэт набыў значныя даўгі. Надыйшла другая зіма. Будаўляны камітэт памалу здабываў сяродкі й часткова выплачваў даўгі, але ён ня меў магчымасьці да далейшае будовы. Паўстала думка дастаць грошы ад польскага ўраду праз асыгнаваньне парляmantам. Была зложана просьба й парлямант асыгнаваў 200 000 злотых. Будаўляны камітэт атрымаў 60 000 зл. пакрыў даўгі і ўвесну 1931 г. прыступіў да далейшай будовы. Гмах вырас да страхі й былі пастаўлены крохвы, але к-т зноў набыў даўгі. Тымчасам дух лібэралізму пачаў паволі разьвейвацца. Польскі ўрад затрымаў далейшую выдачу асыгнаваных грошаў, а ваявода Бэчковіч быў пераведзены на становішча пасла ў Латвію. Старосту Грынеўскага перавялі на Памор'е.

Вельмі даўгое матарыяльнае й духовае паняволеньне беларускага народу ў самым цэнтры Эўропы зьяўляецца анармальнасьцю. Таму беларускі народ адносіўся й адносіцца з пагардаю да калянізатараў (ніколі да народаў) нашых заходніх і ўсходніх суседаў, але ня страціў сваёй дабрадушнасьці да тых асобаў, якія выяўлялі да яго хоць каплю людзкасьці. Вось і ў дадзеным выпадку лібэральнага адношаньня да нашае гімназіі ў Навагрудку ваяводы Бэчковіча й старасьціны Т. Грынеўскай было ацэнена жычліва, што выявілася з боку гімназіі й беларускага грамадзтва ў часе разьвітальнага ад'езду іх на новыя становішчы. Спантанічны выяў сымпатыі да гэтых асобаў ў форме падзякі за добрыя ўчынкі з прыпаднясеньнем скромных памятных падарункаў і пажаданьнем ім усяго найлепшага закрануў не адно сэрца й душу гэтым простым і шчырым беларускім «дзякуем»! Агромная маса вучнёўскае моладзі й старэйшага грамадзтва выявіла гэтую ўдзячнасьць на вуліцы Гродзенскай, што была перайменаваная на вуліцу Бэчковіча.

На становішча Навагрудзкага ваяводы быў назначаны Сьвідэрскі, які быў нядоўга й да справы будовы гмаху адносіўся нэгатыўна. Пасьля Сьвідэрскага ваяводаю быў ведамы ўсёй Польшчы экзэкутар-кіраўнік канцэту ў Бярозе Картускай Костэк-Бэрнадзкі. Зь яго прыездам дух Бэчковіча зусім зьнік і пачаўся паход проціў гімназіі. У канцы 1932 г. будаўляны камітэт забясьпечыў будынак ад вывятрэньня й пакрыў гмах папаю. На гэтым яго работа прыпынілася зусім. Купцы пачалі вымагаць ад камітэту даўгі й нарэшце выставілі будынак на ліцытацыю. Адвакат П. Сьвірыд, як старшыня камітэту й яго заступнік дырэктар гімназіі Я. Цеханоўскі стараліся не дапусьціць прадажы будынку зь ліцытацыі. Імя Прэзыдэнта праф. І. Масьціцкага, як закладчыка гмаху, было пэўным козырам у Беларусаў і польскай уладзе было неяк нязручна забраць гэты будынак. Ліцытацыя цягнулася аж да закрыцьця гімназіі на пачатку школьнага 1934-35 г. Адвакат П. Сьвірыд, дырэктар гімназіі і амаль усе настаўнікі мелі жыраваныя вэкслі, якія змушаныя былі аплачваць. Асабліва даліся ў знакі яны адвакату Сьвірыду. Ён-жа ня толькі бясплатна вёў судовыя справы на працягу ўсяго часу, але й сам плаціў судовыя кошты.

(Заканчэньне ў наступным н-ры)

**А. Негнявіцкі**

# Беларускі Зборнік

**Інстытуту для Вывучэньня СССР**

**Мюнхэн, 1956, №.5, 200 бач.**

Ужо выйшаў чарговы нумар **«Беларускага Зборніка».** У гэтую кніжку ўвайшлі наступныя артыкулы: Г. Няміга — Школьніцтва БССР у няволі бальшавіцка-камуністычнае дактрыны; С. Кабыш — Прамысловасьць і сельская гаспадарка БССР у аспэкце шостай пяцігодкі; Т. Даўлечын — Аб пасыланьні моладзі на індустрыяльныя работы на Поўнач, Усход і ў Данбас; А. Яловіч — Беларускія дубровы; М. Куліковіч — Беларускае мастацтва 20-х гадоў і ягоныя карэньні ў савецкай сучаснасьці; Ант. Адамовіч — Сацыялістычны рэалізм і ягоныя сучасныя аспэкты; А. Марговіч — Кніга аб Беларусі ў ангельскай мове.

Як даведваемся, ужо падрыхтаваны да друку чацьверты нумар «Беларускага Зборніка» ў вангельскай мове, а таксама манаграфія Ант. Адамовіча «Беларуская літаратура ў супраціве саветызацыі» (у вангельскай мове) і Я. Станкевіча «Савецкая фальсыфікацыя гісторыі Беларусі» (у беларускай мове). Гэтыя выданьні маюць выйсьці яшчэ ў гэтым годзе.

# Дзьве рэвалюцыі

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

тызацыю жывым — абяцаюць ім зноў хлеб і свабоду.

Гэтыя мэтады ўжо больш ня дзеюць. Паняволеныя народы зразумелі: хлеб і свабоду яны атрымаюць тады, калі ня будзе бальшавікоў. Камуністычная імпэрыя пачала трашчэць. Работнікі сталі ў авангардзе змаганьня супраць паняволеньня. У 1953 годзе падняліся працоўныя Ўсходняй Нямеччыны. Іх здушылі савецкія танкі, зробленыя рукамі савецкіх працоўных. Летам гэтага году падняліся працоўныя Пазнані. Зноў-жа здушылі іх тыя-ж савецкія танкі.

І вось, пад 39 угодкі кастрычніцкае рэвалюцыі ў Расеі, наступіла другая — запраўдная — кастрычніцкая рэвалюцыя: цэлы народ паўстаў супраць акупантаў, змагаючыся за сваю нацыянальную незалежнасьць, за права выбіраць самым свой дзяржаўны й сацыяльны лад. У гэтым змаганьні задзіночыліся ўсе — работнікі, сяляне, інтэлігенцыя жаўнеры. Вугорскі народ стаўся носьбітам імкненьняў усіх паняволеных бальшавізмам народаў. Ён абвесьціў усяму сьвету, што бальшавікі зьяўляюцца акупантамі й панявольнікамі, улада якіх апіраецца толькі на грубой сіле. Ён абвесьціў, што будзе змагацца за сваю незалежнасьць да апошняга.

У той час, калі ў Беларусі й па ўсім Савецкім Саюзе перад бальшавіцкімі трыбунамі праходзяць калёны сагнаных дэманстрантаў, адзначаючы 39 угодкі кастрычніцкае рэвалюцыі, па ўсёй Вугоршчыне грымяць стрэлы — гэта стрэлы савецкіх гарматаў і танкаў, пасланых здушваць другую кастрычніцкую рэвалюцыю — нацыянальную рэвалюцыю вугорскага народу. Падсавецкіх роботнікаў і сялян прымушаюць страляць у сваіх вугорскіх братоў, якія змагаюцца за тое, чаго не дала першая кастрычніцкая рэвалюцыя народам Савецкага Саюзу: нацыянальнае незалежнасьці й сацыяльнае справядлівасьці — хлеба й свабоды.

Гэтыя стрэлы адбіваюцца рэхам у сэрцах усіх паняволеных народаў. Яны маюць нязломную надзею: у канчатковым выніку ідэялы другое — запраўднае кастрычніцкае рэвалюцыі — дадуць ім усім хлеб і свабоду.

**Ул. Немановіч**

### ПОШУКІ

Шукаю Зосю, Маню і ўсю сям'ю **Міхальчукоў** з Агарэвіч, раён Ганцавіча, Палесьсе. Весткі прашу слаць на наступны адрас:

Mr. Taras Sajko
635 Monroe St. N. E.
Minneapolis, Minn.
U. S. A.




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**